

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 9 (75) 3 — 16 сакавіка 1994 г.

Кошт 50 руб.


## Грамадзяне--дэпутаты Віцебскага гарсавета!

Мы ўважліва вывучалі вашы меркаванні наконт вашай дзейнасці ў газеце «Віцьбічы». Чытаючы ваш самааналіз, прыходзіш да наступнае высновы. Вы лічыце, што годна прадстаўляеце ў Савеце інтарэсы жыхароў Віцебска, цалкам дасведчаныя і ледзь не ў поўным складзе гатовыя перавыбірацца на новы тэрмін. Ні ў кога нават не ўзнікла ідэя пра ўласныя датэрміновыя перавыбары.

Аднак веданне фактычнага боку дзейнасці Віцебскага гарсавета выклікае сумненне ў праўдзівасці вашых самаацэнак.

Каб пазбыцца сумненняў і ўпэўніцца ў той ці іншай ацэнцы вашай дзейнасці, дазвольце задаць вам некалькі пытанняў. А газета «Віцьбічы», відаць, выканае сваё абяцанне надрукаваць пытанні і адказы на іх.

Пытанні нашы звязаны да таго ж з патрэбай і жаданнем, якое ёсць у кожнага жыхара Віцебска і ў нас, атрымаць як найхутчэй (а не перад смерцю) ўласнае жыллё, у выніку прыватызацыі не аказацца жабраком.

Дэпутаты, вы некалькі год былі ўласнікамі горада. У вашых руках была ўласнасць кожнага з нас. Аднак гарвыканкам пад кіраўніцтвам Федарчука-Лапінскага за бясцэнак прадаваў нашу ўласнасць, прыхапіўшы сабе ваша дэпутацкае права. Калі мы, віцябляне, атрымаем ваўчары, нам застанецца прыватызаваць грамадскія прыбіральні.

1. Чаму ніхто з вас не катраляваў распродаж маёмасці грамадзянаў Віцебскім гарвыканкамам?

2. Чаму вы, даведаўшыся пра незаконныя здзелкі, азнаёміўшыся з «сакрэтнымі пратаколамі» гарвыканкама, не пратэставалі, не рабілі захадаў па вяртанню нашай маёмасці?

На сесіі гарсавета Неушаў прапанаваў вам зацвердзіць незаконныя здзелкі выканкама. Пад час галасавання падліковая камісія не працавала. Галасаванне сталася несапраўдным, бо з сотні дэпутатаў галасавала каля 20.

3. Чаму ніхто з вас не выступіў супраць незаконнага галасавання, незаконнага зацверджання незаконнае здзелкі—продажу за бясцэнак уласнасці грамадзян Віцебска?

Ці ўсведамляеце вы, што сталі не слугамі народа, а прыслугаю прыхватызатараў, якія рабуюць ваўчары ўсіх віцяблян?

На працягу некалькіх год Віцебскі гарвыканкам раздаваў кватэры без чаргі—у тым ліку і дэпутатам, і супрацоўнікам выканкама.

4. Чаму вы не кантралявалі і не пратэставалі супраць незаконнае раздачы кватэр, а ганебна маўчалі?

5. Чаму вы не дабіліся высялення тых, хто незаконна і без чаргі атрымаў кватэры? І ўвогуле, ці маеце вы прывілеі?

Гарвыканкам забараніў у Віцебску святкаванне дня 8 верасня. Гісторыя чалавецтва такога не ведала. Па рашэнню выканкама ў гэты дзень нельга было святкаваць ні вяселлі, ні дні нараджэння. Ніхто з вас не пратэставаў супраць дуркаватага рашэння. Да таго, ваша газета «Віцьбічы» апублікавала здзеклівы артыкул, аўтар якога кпіў з патрыятычных пачуццяў грамадзянаў і адкрыта заклікаў да расправы над імі.

6. Чаму ніводзін з вас, дэпутаты, не пратэставаў супраць незаконнага рашэння? Вы заўсёды і паўсюдна дбаеце пра народ, стогнучы, што распад Саюза і разрыў сувязяў давёў людзей да галечы, і вы таму мала што можаце для іх зрабіць.

7. Чаму вы, праводзячы канферэнцыю «Саветы і дэмакратыя», запрашаеце ўдзельнічаць у ёй кіраўнікоў арганізацый, якія назаўтра святкуюць угодкі знішчэння беларускай дзяржаунасці (так званае «далучэнне» да Расіі)?

Гэтыя выпадкі, а інакш іх нельга назваць, шальмуюць тую дзяржаву, уладу якой вы сёння прадстаўляеце.

Дык хто ВЫ?

8. Чаму пры ўсеагульным збядненні некаторыя кіраўнікі савецкай улады ў Віцебску, маючы добраўпарадкаваныя кватэры, будуюць сабе яшчэ і палацы?

На прадпрыемствах горада шмат беспрацоўных. Ім плацяць мізэр, адпраўляюць у адпачынак за свой кошт. У той жа час усю восень на палетках шчыравалі студэнты.

9. Чаму вы, дэпутаты, большасць з якіх кіраўнікі, не накіравалі ў вёску беспрацоўных, не далі магчымасці ім зарабіць, а студэнтам нармальна вучыцца?

10. 15 лютага дэпутаты Б. Мацвееў, А. Гаўруцікаў, М. Прышчэпаў сустрэліся з выбаршчыкамі на пляцы Волі. Адказалі на пытанні і потым дапамагалі выбаршчыкам у выбаршчыкам рашаць жыллёвыя пытанні. За гэта па загаду дэпутата палкоўніка Ільніцкага на дэпутатаў склалі паклёпніцкія пратаколы, абвінавацўшы іх у правядзенні несанкцыяніраванага мітынгу. Вашых калег збіраюцца судзіць. Чаму вы не пратэстуеце? Чаму маўчыце? Можа, баіцеся? А можа, задаволены, што любімыя і паважаныя народам дэпутаты будуць пакараны? Не сорамна вам?

11. З-за недахопу бензіна «хуткая дапамога» не выязджае па выкліках. Людзі паміраюць. Вы, дэпутаты, вінаваціце ў гэтым разрыў сувязяў. У той жа час кіраўнік савецкай улады Віцебшчыны А. Каралёў тысячы тонаў паліва сплавіў за мяжу за бясцэнак.

Чаму ніхто з вас, дэпутаты, не абурыўся, не пратэставаў, не дабіваўся адхілення ад пасады гэтага кіраўніка?

12. Вы сістэматычна ўзнімаеце лямант наконт росту злачыннасці. У той жа час грамадзяне, якія звяртаюцца ў праваахоўныя органы за пакараннем злачынцаў, у тым ліку з дэпутатаў, не могуць дабіцца перамогі закона.

Складваецца ўражанне, што вы зацікаўленыя ў беспакаранасці тых, хто сістэматычна парушае закон. Ці так гэта?

І, нарэшце, скажыце шчыра:

13. Ці патрэбны віцяблянам такія дэпутаты, як вы?

14. Ці патрэбна віцяблянам такая савецкая ўлада?

**У. ПАДГОЛ,**
**У. ПЛЕШЧАНКА,**
**Б. ХАМАЙДА.**

---

У «Криминальных новостях» «Віцьбічаў» за 26 лютага ў вушы чытачоў старанна ўкладваецца думка, што грамадзянін Рабінкоў, якога застрэліў супрацоўнік міліцыі, з'яўляецца прадстаўніком крымінальнага свету Віцебска. Газета не ведае, хто гэты грамадзянін. Але, напрыклад, заўтра прыйдзе супрацоўнік міліцыі ў Вашу кватэру, застрэліць гаспадара, а праз дзень газета «Віцьбічы» надрукуе, што быў застрэлены «мафіёзі».

У такім выпадку наша газета гатова абараняць любога «мафіёзі».

## Засталіся без бацькі



У ноч з выхаднога на панядзелак афіцэр міліцыі, супрацоўнік 6-га аддзела МУС па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй В. Цюлькоў, знаходзячыся ў кватэры В. Рабінкова, застрэліў гаспадара кватэры.

В. Рабінкоў сядзеў у крэсле, калі міліцыянер выпусціў у яго 7 куль: 3 трапілі ў грудзі, 4—у галаву. Забойства адбывалася на вачах у цяжарнай жонкі. Калі скончыліся патроны, Цюлькоў паспрабаваў перазарадзіць пісталет, каб застрэліць сведку забойства. Не адшукаўшы абойму, ён пачаў душыць цяжарную жанчыну. На дапамогу ёй з суседняга пакоя кінулася жонка брата. Удваіх яны адбіліся ад забойцы, які збег, і выклікалі міліцыю. Забойцу схапілі каля смеццеправода, дзе ён устаўляў новую абойму.

Без бацькі засталіся дзве дзяўчынкі: у трэцім і чацвёртым класах (гл. фота).

**Грамадзяне Віцебска! Клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» пачынае збор сродкаў для дзяцей забітага В. Рабінкова. Збор сродкаў будзе праходзіць у рэдакцыі «Выбара» (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх), а таксама ў пікетах.**

## ПЕРШАЯ АХВЯРА БАРАЦЬБЫ З САВЕЦКАЙ ЎЛАДАЙ

На пасяджэнні гарадской арганізацыі АДПБ 5 лютага 1994 г. з шэрагу дэмакратаў быў выключаны К. Баландаў. Яго выключылі за агітацыю і ўдзел у семінары «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёю». Яму таксама «прышылі» заклік да ўзброенага захопу на той падставе, што Баландаў паставіў свой подпіс пад улёткай «Советская власть»=карупцыя+разбурэнне+смерць. Мы знішчым злачынную «савецкую власть». Пакуль што «знішчылі» «членство» Баландава ў дэмпартыі. З чым ён не пагадзіўся і падаў апеляцыю на аднаўленне.

**У. ЗДЗІЎЛЕНЫ.**

## БАРАЦЬБА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

22 лютага ў Мінску на плошчы Незалежнасці зноў адбыўся мітынг, які прыняў рэзалюцыю. Чарговы выхад на плошчу Незалежнасці вырашана ажыццявіць у чацвер, 10 сакавіка 1994 года у 11 гадзін. Барацьба за рэалізацыю вылучаных 15 лютага патрабаванняў працягваецца.

У Віцебску пастаяннае месца збораў ўдзельнікаў страйку - пляц Волі.

---

## У ВЫДАННІ:

✦"ЧОРНАЯ КНІГА" ЗЛАЧЫНСТВАЎ

✦ЛІСТОЎКА БНФ

## ПАВАЖАНЫЯ ВІЦЯБЛЯНЕ!

Падзеі апошніх дзён сведчаць пра тое, што ПАРТЫЯ УЛАДЫ не жадае губляць кармушку. Прадстаўнікі ПАРТЫІ УЛАДЫ, служачыся адказнасці за карупцыю, распачалі тэрор супраць грамадзян. Пры гэтым блакіруецца аб'ектыўная інфармацыя ў афіцыйных сродках. Мы ўсе сталі амаль жабракамі, і шмат хто з нас не можа падпісацца на газеты.

Рада Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» прыняла рашэнне большую частку тыража гэтага нумара **(60 тыс.)** распаўсюдзіць бясплатна.

---

***Рада Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» паведамляе, што пры клубе створаны аналітычны цэнтр стратэгічных даследаванняў. Супрацоўнікамі цэнтра з'яўляюцца вучоныя педагагічнага, тэхналагічнага, медыцынскага і ветэрынарнага інстытутаў.***

Выконваючым абавязкі кіраўніка цэнтра рада клуба прызначыла **У. Падгола.**

Накірункі дзейнасці цэнтра:

1. Распрацоўка метадаў знішчэння злачыннай савецкай улады.
2. Стварэнне альтэрнатыўнай сістэмы ўлады.
3. Стварэнне сацыяльна-эканамічнага праекта «Будучы Віцебск».
4. Распрацоўка метадаў дэзамбіравання, дэміфалагізацыі свядомасці.
5. Напісанне «Чорнай кнігі злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне».
6. Распрацоўка методык для дзейнасці грамадскіх камісій па барацьбе з карупцыяй, па правах чалавека.
7. Распрацоўка тэхналогій па перадвыбарнай барацьбе.
8. Стварэнне праграм па дапамозе: а) інвалідам, б) пенсіянерам, в) малазабяспечаным сем'ям.

Загадчык сектара эканомікі, дацэнт, кандыдат эканамічных навук
**А. БУГАЁЎ.**

Загадчык юрыдычнага сектара, кандыдат юрыдычных навук
**А. ПЯТРОЎ.**

Загадчык сектара экалогіі, кандыдат сельскагаспадарчых навук
**В. КАЗЕЛЬСКІ.**

Загадчык сектара адукацыі, дацэнт, кандыдат педагагічных навук
**М. РАДЗЮК.**

Загадчык сектара альтэрнатыўных сістэм улады, кандыдат гістарычных навук
**У. КРУКОЎСКІ.**

Загадчык сектара распрацоўкі метадаў знішчэння злачыннай савецкай улады, дацэнт, кандыдат філасофскіх навук
**У. ПАДГОЛ.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Перад Вамі—сёмы выпуск «Чорнай кнігі» злачынстваў «советской власти» на Віцебшчыне» (пачата ў №№ 3-8). У папярэдніх выпусках мы расказалі пра парушэнні Віцебскім гарвыканкамам заканадаўства пры правядзенні прыватызацыі гарадской маёмасці, пры размеркаванні жылля, пра раскраданне савецкімі чыноўнікамі народнага дабра. Так, у другім выпуску «Чорнай кнігі» («Выбар» № 4 за гэты год) яе рэдкалегія патрабавала адстаўкі за парушэнне законаў Федарчука і Лапінскага. Дэпутат аблсавета Б. Мацвееў рабіў адпаведны дэпутацкі запыт. Пакуль што Федарчук і Лапінскі застаюцца на сваіх пасадах.

# «ЧОРНАЯ КНІГА» ЗЛАЧЫНСТВАЎ «СОВЕТСКОЙ ВЛАСТИ» НА ВІЦЕБШЧЫНЕ»

**Семінар «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй» працягваецца ў форме надрукавання «ЧОРНАЙ КНІГІ» злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне» і абмеркавання матэрыялаў «ЧОРНАЙ КНІГІ» як на паседжаннях Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» (пляц Волі), так і ў памяшканні рэдакцыі газеты «Выбар» (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх). Запрашаюцца ўсе жадаючыя з супрацьлеглымі поглядамі і інтарэсамі прыняць удзел у абмеркаванні.**

**(Пачатак у №№ 3—8 1994 г.).**

*В КЛУБ ИЗБИРАТЕЛЕЙ «ЗА ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ ВЫБОРЫ»*

## ЗАЯВЛЕНИЕ

Прошу Вас передать депутатам ВС РБ мое заявление.

Прошу С. НАУМЧИКА сделать с трибуны сессии ВС депутатский запрос генералу милиции М. ГРИБУ, а также передать мое заявление в комиссию по правам человека при ООН и во все средства массовой информации.

Ночью 21 февраля 1994 года офицер милиции Валерий Тюльков пришел в мою квартиру. Когда мой муж Валерий Рябинков сидел в кресле, милиционер начал в него стрелять. Три пули попали мужу в грудь, четыре—в голову. Я бросилась на убийцу-милиционера, так как он хотел еще стрелять и пытался перезарядить пистолет. Милиционер бросился на меня и стал душить, при этом порвал на мне одежду. Из соседней комнаты выскочила жена брата и мы отбились от убийцы. Его арестовали.

Мне страшно выходить на улицу. По радио и телевизору сообщают о массовых незаконных арестах людей. Об этом пишут в газетах.

Генерал! Прекратите войну против своего народа. Сколько трупов и арестованных нужно Вам, чтобы и дальше приватизировать Беларусь? Почему Вы не арестовываете коррупционеров Кебича, а стреляете в безработных, каким был мой муж? Он, кстати, воевал в Афганистане и выжил, а был застрелен в своем афганском доме тем, кто должен нас защищать. Я беременна, на попечении остались две дочери. Как нам выжить?

**Жена Пентковская А. С.**

### От дочерей

Дядя Гриб, мы просим Вас о помощи. Вы стали спикером парламента Беларуси и сразу начались аресты, а нашего любимого папу застрелил Ваш офицер-милиционер.

Когда Вы были генералом в Витебске, то тогда милиция незаконно арестовывала людей, пытала их, а потом расстреливала по известному "витебскому делу".

Нашему папе повезло—его не пытали, а застрелили сразу. За это Вам спасибо. Просим Вас, сделайте так, чтобы мы получали пенсию за отца, как за офицера милиции, погибшего в борьбе с бандитами.

Рассмотрите этот вопрос на сессии.

**Дочери: Кристина, Ольга.**

Прошла неделя с момента жуткого убийства, а мы не можем успокоиться. Убили нашего друга. Он был обычным парнем с необычной трагической судьбой. Валерий прошел Афганистан, избежал смерти. Судьба подарила ему счастливую жизнь. Любимую жену и квартиру в доме, который он построил своими руками. Как он радовался. Но умерла мать, умерла жена. Мы страдали и переживали вместе. И радовались вместе, когда узнали, что в новой семье Валеры будет пополнение. Дочери Валеры Кристина и Ольга с нетерпением ждали братика... Сын уже никогда не обнимет отца и будет грустить о нем, глядя на афганскую фотографию. Он с гордостью будет рассказывать друзьям о солдате-отце, о том, как он храбро сражался в Афганистане... Возможно, при этом он будет вздрагивать от жуткой боли, ибо пули убийцы-милиционера впивались в голову отца на глазах беременной матери.

Жизнь семьи Валеры Рябинкова уничтожила преступная советская власть. Именно эта преступная организация вложила в руки выродка-милиционера пистолет. И именно она и ее карательный орган—руководство милиции должны ответить за смерть нашего друга. Преступной власти нужна организация, которая охраняет не наши семьи, а режим. И именно людей с особым аморальным характером власть подбирает для службы себе. Факты последних дней свидетельствуют о том, что мы превращаемся в фашистскую страну, в которой не будет нормальной жизни ни белорусам, ни евреям, ни демократам, ни афганцам, ни рабочим, ни бизнесменам—процветать будет только ПАРТИЯ ВЛАСТИ, превратив остальных в рабов.

Мы не политики, и не хотим заниматься политикой. Мы хотим иметь нормальную человеческую жизнь, работать и получать заработанное, ходить по улицам и не бояться ни бандитов, ни милиционеров. Мы хотим, чтобы наши дети и жёны были в безопасности. Этого же хотел наш лучший друг Валера. А как этого добиться, мы не знаем.

**Александр КАРПУШИН,**
**Геннадий УСТИНОВ,**
**ветераны афганской войны, награждённые медалями «За отвагу», «От благодарного афганского народа», «70 лет Вооруженным Силам СССР».**



## ДОБРАЕ СУСЕДСТВА

*Катэдж злева належыць начальніку аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Казлову , супрацоўнік якога застрэліў грамадзяніна Рабінкова , справа -- намесніку старшыні гарвыканкама Лапінскаму.*

*«Как показала выборочная проверка, по городу Витебску 142 человека из обеспеченных жилплощадью по действующим в Витебске нормативам получили льготные кредиты на строительство жилья. Не отличаются скромностью многие хозяйственные руководители города, исполкома, которые, имея квартиры, проявляют завидную активность в получении кредитов на строительство жилых домов».*

*(З прамовы старшыні аблвыканкама У. Кулакова.)*

«В ночь с 24 на 25 января 1992 года двумя сотрудниками роты спецназа беспричинно и без оснований был убит мой сын—18-летний студент 2-го курса лечебного факультета Витебского медицинского института Баранов Александр...»

***(З заявы бацькі забітага Сашы Баранава Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь ад 3 лютага 1992 года.)***

***З адказу нам. начальніка УУС аблвыканкама, дэпутата гарсавета А. Янкоўскага.***

«...Если работник милиции требует от гражданина остановиться, подойти к нему, назвать точно свою фамилию, место жительства или работы, предъявить подтверждающий документ, а человек убегает или не выполняет эти требования, значит, он оказывает неповиновение и потому к нему может быть применена резиновая палка».

***З крымінальнай справы «ДЕЛО № 1-429-93 г.»***

«...Бегущего потерпевшего Баранова А. А. возле д. 13 по ул. Суворова настигли сотрудники отдельной роты милиции специального назначения (ОРМСН) управления внутренних дел Витебского облисполкома Богрец В. П. и Лускин К. М., которые выполняли свои служебные обязанности по охране общественного порядка, были одеты в форму милицейского спецназа и экипированы спецсредствами в установленном порядке. Они, без наличия установленных законом оснований, задержали Баранова А. А. и без всякой необходимости, в условиях, когда это не вызывалось конкретной обстановкой, в силу своей специальной профессиональной подготовки и телосложения, имея подавляющее превосходство над Барановым А. А., явно выходя за пределы предоставленных им прав и полномочий, унижая человеческое достоинство потерпевшего, причиняя ему сильную боль и страдания, незаконно избили потерпевшего Баранова А. А., применив специальные средства—резиновые палки «ПР-73 «М»-АТВ». Богрец В. П. нанес указанной палкой, являющейся холодным оружием, Баранову А. А. два удара, а Лускин К. М.—один удар, все удары наносились в область спины.

В результате нанесенных сильных ударов, Баранов А. А. упал на землю и остался лежать оез движений.., а...Цариков В. П. подошел к лежащему на земле Баранову А. А., подал команду «встать», а затем нанес удар имевшейся у него резиновой палкой лежащему Баранову А. А. в область спины, а стоящий рядом Богрец нанес Баранову А. А. удар ногой, от которого тело потерпевшего перевернулось. После этого Лускин К. М., с помощью сидящих в автомашине УАЗ Арестова и Андреанова, погрузили Баранова в указанную автомашину на пол между задним и передним сидениями и доставили в Октябрьский РОВД г. Витебска, где вызванными врачами скорой помощи была констатирована смерть Баранова А. А.

В процессе незаконного избиения Баранова А. А. Богрец В. П., Цариков В. П. и Лускин К. М. причинили совместными действиями потерпевшему четыре полосчатых кровоподтёка на задней поверхности туловища с массивными кровоизлияниями в мягкие ткани спины, три ссадины в области гребня правой лопатки, две ссадины справа по задне-подмышечной линии на уровень 8-9 ребер, ссадины справа между передне-подмышечной и задне-подмышечной линиями на уровне 10 ребра, ссадины справа ниже гребня подвздошной кости, мелкие кровоподтёки у внутреннего края правой лопатки, три изолированных кровоизлияния под апоневрозом свода черепа, ушибленную рану и кровоподтёки на слизистой оболочке нижней губы, массивные кровоизлияния в заднее средостение (с отслойкой аорты в грудном её отделе), в подвешивающий аппарат и ткань обоих лёгких, под наружную оболочку и в мышцу (ушиб сердца), кровоизлияние под капсулу и в ткань поджелудочной железы и околопочечную клетчатку слева.

По степени тяжести закрытая тупая травма грудной клетки с массивными кровоизлияниями в мышцу сердца, в заднее средостение с отслойкой грудного отдела аорты, подвешивающий аппарат и ткань лёгких, под капсулу и в ткань поджелудочной железы, околопочечную клечатку слева, по признаку опасности для жизни относится к категории тяжких телесных повреждений и явилась причиной смерти БАРАНОВА А. А. ...»

***29 студзеня 1992 года адбылося надзвычайнае пасяджэнне калегіі УУС аблвыканкама.***

«Мы здесь собрались,—***казаў, адкрываючы пасяджэнне, генерал-маёр міліцыі дэпутат аблсавета А. Кляшчонак,***—не для защиты чести мундира, а чтобы дать правильную социальную оценку случившемуся—трагическому исходу пресечения нашими сотрудниками группового нарушения общественного порядка, которое повлекло смерть студента мединститута А. Баранова».

І калегія дала «правільную ацэнку» таму, што здарылася. «...коллегия признала действия сотрудников правомерными...» І асвяціла свае міліцэйскія мундзіры ў анёльскія.

***З гутаркі з маёрам Лаўрэнавым, камандзірам асобнай роты міліцыі спецыяльнага прызначэння УУС.***

«...Как командир я не приветствую то, что случилось, хотя ребята действовали правомерно...»

***З прыгавора суда:*** «...Признать виновными БОГРЕЦА Виктора Петровича, ЛУСКИНА Константина Михайловича, ЦАРИКОВА Владимира Петровича в умышленном причинении тяжкого телесного повреждения, повлекшего смерть потерпевшего, носившего характер мучения и истязания и на основании ст. 106 ч. 2 УК РБ назначить наказание в виде лишения свободы. БОГРЕЦУ В. П. шесть лет лишения свободы, ЛУСКИНУ К. М. пять лет лишения свободы, ЦАРИКОВУ В. П.—четыре года лишения свободы.

Их же признать виновными в превышении власти по признакам насилия и применения оружия, мучения и оскорбления личности и достоинства и на основании ст. 167 ч. 2 УК РБ назначить наказание БОГРЕЦУ В. П. пять лет лишения свободы, ЛУСКИНУ К. М.—четыре года лишения свободы, ЦАРИКОВУ В. П. три года лишения свободы.

На основании ст. 39 УК РБ окончательную меру наказания путем поглощения мягкого наказания более строгим считать БОГРЕЦУ В. П. шесть лет лишения свободы, ЛУСКИНУ К. М. пять лет лишения свободы, ЦАРИКОВУ В. П. четыре года лишения свободы с отбытием всеми троими в ИТК усиленного режима...»

***15 лютага 1994 года па ініцыятыве Віцебскага гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» на пляцы Волі адбылася сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі Мацвеевым, Гаўруцікавым, Прышчэпавым. Праз дзень арганізатары гэтай сустрэчы У. Падгол, У. Плешчанка, Б. Хамайда, К. Баландаў і вышэйназваныя дэпутаты былі выкліканы ў Кастрычніцкі РАУС.***

*Арганізатарам сустрэчы з дэпутатамі і самім дэпутатам у міліцыі было прад'яўлена абвінавачванне ў правядзенні несанкцыяніраванага мітынгу. Пры гэтым супрацоўнікі міліцыі не змаглі прад'явіць ніякіх доказаў абвінавачвання. Міліцыянты не здолелі таксама адрозніць мітынг ад сходу і сустрэчы.*

*Праз тыдзень на чарговай сустрэчы з дэпутатамі Баландаў, Мацвееў, Падгол, Хамайда звярнуліся да дэпутата гарсавета палкоўніка міліцыі Ільніцкага і задалі шэраг пытанняў:*

***Падгол:*** *Ці можна да Вас зараз звярнуцца, як да дэпутата?*

***Ільніцкі:*** *Не! Прыходзьце да мяне ў прыёмныя дні і гадзіны ў памяшканне, дзе я прымаю.*

***Хамайда:*** *Які лёс пратаколаў, што склалі на нас вашы падначаленыя?*

***Ільніцкі:*** *Мы іх перадалі ў суд...*

***Падгол:*** *Ці можаце Вы зараз даць юрыдычнае азначэнне акцыі, якую мы праводзім?*

***Ільніцкі:*** *Не, я нічога Вам не скажу.*

***Хамайда:*** *Чаму?*

***Ільніцкі:*** *Мы не просветительные органы, а карательные...*

### «ИМЕНЕМ СОВЕТСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ...»

*Старшыня нарсуда Кастрычніцкага раёна г. Віцебска В. Бурда 28 лютага г. г. вынес пастанову: на падставе арт. 167-І частка І і арт. 202 Кодэкса Беларускай ССР аб адміністрацыйных правапарушэннях папярэдзіць Баландава К. І. аб недапушчальнасці парушэння ўстаноўленага парадку арганізацыі альбо правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый.*

*Сцвярджэнне Баландава суду пра тое, што ён быў адным з ініцыятараў **сустрэчы выбаршчыкаў з дэпутатамі**, якая адбылася 15 лютага 1994 года на пляцы Волі, для «стражей законности» не з'явілася важкім доказам.*

***У. ЖЫГУЛОЎ.***

***P.S.*** *К. Баландаў—былы сябра АДПБ. Пры Віцебскай арганізацыі гэтай партыі створана камісія па правах чалавека на чале з А. Залескай. Пакуль што гэтая камісія і яе кіраўнік, «известная правозащитница», моўчкі згаджаецца з праследаваннем уладамі К. Баландава і іншых актывістаў дэмакратычнага руху Віцебска.*

*«Сложной остается в городе криминогенная ситуация... Произошел рост умышленных убийств—на 52 процента, грабежей—на 14 процентов. Отмечается рост мошенничества, поджогов.*

*Не всегда срабатывает принцип неотвратимости наказания. Остались нераскрытыми две с половиной тысячи преступлений (64 процента от совершенных, в области только 36 процентов)».*

***(З прамовы старшыні аблвыканкама У. Кулакова.)***

*Хто ёсць хто*

# Дэпутат Віцебскага гарадскога Савета В. Афанасьеў

Упершыню аб гэтым чалавеку я даведаўся гады два таму ў Кастрычніцкім судзе, калі ён падаў у суд на журналіста Сяргея Буткевіча за тое, што той у сваёй публікацыі нібыта абразіў В. Афанасьева, выкарыстаўшы выраз: **«Бывший военный прокурор, с треском изгнанный из армии».**

Вёў сябе на судзе В. Афанасьеў больш чым нахабна. Суд маўчаў. Больш за ўсіх выступаў і гаварыў сам Афанасьеў.

І невядома, чым бы тады ўсё скончылася, можа і плацілі б грошы В. Афанасьеву «Народная газета» і Сяргей Буткевіч, каб былі ў той час ва ўладзе генералы міліцыі. Дамогся ж гэтага сёння былы сакратар Лёзненскага райкама КПБ-КПСС І. Авін ад той самай газеты і Б. Хамайды.

Маглі б не дапамагчы нават такія дакументы, як, напрыклад, адказ Ваеннага пракурора Беларускай вайсковай акругі А. Глюкава ад 10.04.90 г. № 280 на пісьмо групы выбаршчыкаў 102-й Аляксандраўскай акругі: **«За грубейшие нарушения социалистической законности при расследовании уголовных дел, лживость и обман он в 1989 году уволен из Вооруженных Сил и органов военной прокуратуры по служебному несоответствию, досрочно, без пенсии».**

І звольнілі не дарэмна. Тады, у канцы 80-х, ад такіх, як В. Афанасьеў, ачышчаліся Узброеныя Сілы і грамадства.

Вось характарыстыка са службы ў Марыйскай Рэспубліцы: **«По характеру самолюбивый, лжив, критику в свой адрес воспринимает болезненно, заносчив и груб».**

Альбо з апошняга месца службы ў Віцебску: **«По характеру В. Афанасьев нечестен, изворотлив, лжив. Переоценивает свои способности, демагогичен, на критические замечания не реагирует и недостатки не устраняет».**

Але не паспелі В. Афанасьева вытурыць з Узброеных Сіл, як той, абдурыўшы выбаршчыкаў, не без дапамогі ўладаў пралез у дэпутаты гарсавета, узначаліў у Віцебскай вобласці фонд сацыяльнай абароны ваеннаслужачых, ды яшчэ стаў у гарсавеце кансультантам.

Тады ўладам патрэбны былі тыя, хто добра крычыць на дэмакратаў і БНФ. І ўлады выкарысталі В. Афанасьева. Карыстаюцца ў іх попытам афанасьевы і перад гэтымі выбарамі, магчыма, нават яшчэ большым. І хоць у апошні час В. Афанасьеў часта лаецца з уладамі (тут, відаць, дзейнічае на яго сіндром Лукашэнкі), але ж тыя мірацца з гэтым, бо, як і ён, люта ненавідзяць дэмакратаў. І тут В. Афанасьеў патрэбен ім. Патрэбен таму, што робяць адну і тую ж справу аднымі і тымі ж метадамі.

Узяць хаця б артыкул В. Афанасьева ў газеце «Во славу Родины» «Бенефис Зенона Позняка», дзе ён у стылі, які адпавядае ягоным характарыстыкам, перавярнуў усё з ног на галаву, абразіўшы Пазьняка, БНФ, БЗВ. Але не забыўся пахваліць супрацоўнікаў міліцыі, якія праз некалькі дзён «наводзілі парадак» супраць дэмакратаў за тое, што тыя выйшлі на пляц Волі 15 лютага, каб прыпыніць вэрхал, распачаты такімі ж нахабнікамі ва ўладзе, як і сам В. Афанасьеў. Нездарма ж ён атрымаў, відаць, у знак падзякі за добра выкананую справу, за сваю хлусню ў артыкуле, адказ-узаемапаразуменне міністра абароны П. Казлоўскага. Як тут не ўспомніць байку Крылова: «Кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку».

Сёння такіх, як В. Афанасьеў, у Беларусі з Узброеных Сілаў не выганяюць.

Выганяюць афіцэраў, якія гатовы быць патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны, а вайскоўцы павінны быць менавіта такімі, бо ў іншым выпадку навошта тады дзяржаве войска. Выганяюць тых, хто ствараў Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў, тых, хто ўдзельнічаў у гэтым патрыятычным руху, хто паўстаў супраць карупцыі і злачынстваў.

Сёння забараняюць і бэсцяць усё беларускае. Сёння, перад выбарамі на Беларусі, у кіруючых колах у пашане цемрашальства і нахабства, дэмагогія і хлусня. Афанасьевы патрэбны ім, каб захаваць уладу, вярнуць беларусаў у камуністычнае стойла, ліквідаваць Беларусь як дзяржаву.

**Старшыня Віцебскай арганізацыйнай групы БЗВ**
**У. ПЛЕШЧАНКА.**

## У мінулую суботу адбылася канферэнцыя Віцебскай філіі БНФ

З 30-хвілінным дакладам выступіў старшыня рады М. Паўлаў. Большая частка даклада была прысвечана крытыцы, як ён назваў, «актыўных агентаў уздзеяння» Б. Хамайды і У. Плешчанкі за дыскрэдытацыю яго асобы.

Аб семінары «Злачынная савецкая ўлада» ён выказаўся: «Калі распачаўся семінар, я быў супраць гэтага семінара. Мае меркаванні не змяніліся. Я і зараз супраць семінара». І. Цішкін, які выступіў з садакладам, працягваў крытыку Б. Хамайды і У. Плешчанкі.

Выступаўшыя ў спрэчках па абмеркаванню даклада крытыкавалі працу М. Паўлава на пасадзе старшыні гарадской рады БНФ. «Актыўныя агенты ўздзеяння» сядзелі моўчкі, бо час быў абмежаваны, і ўсё было падрыхтавана загадзя, як на сходзе ў калгасе. Але пасля перавыбрання М. Паўлава старшынёй ад прапанаваных ім пасад у кіраўніцтве адмовіліся, бо не збіраюцца працаваць на імідж падмачыўшага штаны «ўрада» М. Паўлава.

Здзіўляе, чаму гэтых дваіх, калі яны агенты, не выключылі з шэрагаў БНФ? Няўжо куратары з Успенкі накіроўваюць мясцовую раду БНФ у патрэбным накірунку? І, нарэшце, калі адбудзецца канферэнцыя, на якой будзе абмяркоўвацца канкрэтная праца?

**У. ПЛЕШЧАНКА.**

**Рэдакцыя газеты гатова надрукаваць даклад М. Паўлава на згаданай канферэнцыі ў поўным аб'ёме.**

**Рада клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» зацвердзіла лістоўку з наступным зместам:**

**«СОВЕТСКАЯ ВЛАСТЬ»=КАРУПЦЫЯ**
**+ РАЗБУРЭННЕ**
**+ СМЕРЦЬ.**

**Мы зьнішчым злачынную «советскую власть».**

А. Мудрычэнка, У. Падгол, У. Плешчанка, Б. Хамайда.

# Патрэбны добраахвотнікі

**Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары" запрашае добраахвотнікаў для кантролю за ходам маючых адбыцца выбараў. Звяртацца па тэлефонах: 37-28-44, 37-35-06, пісаць па адрасе: 210601, Віцебск, вул. Гогаля, 17, рэдакцыя газеты "Выбар".**

**Нельга дазволіць уладу маючай камуністычнай наменклатуры ў чарговы раз сфальсіфікаваць вынікі выбараў.**



***ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ!***

***Да цябе звяртаецца лідэр парламенцкай апазіцыі, старшыня БНФ Зянон Пазьняк.***
***Ты маеш права згаджацца з ім альбо не.***
***Але паспрабуй дачытаць да канца, каб пачуць і зразумець яго.***

# ШТО ЗРОБІЦЬ БНФ ПЕРШ ЗА ЎСЁ

## Пасьля перамогі БНФ на выбарах:

- Наводзіцца парадак, прымаюцца асаблівыя законы, выдзяляюцца сродкі і даюцца правы міліцыі для барацьбы з крымінальнай злачыннасьцю.
- Для грамадзян краін, якія вядуць вайну, уводзяцца візавы рэжым і асаблівыя правілы ўезду ў Беларусь. Гандаль зброяй забараняецца, гэтаксама як дзейнасьць сэктаў шарлатанаў і афэрыстаў.
- Усё, што намэнклятура нарабавала ў дзяржавы, вяртаецца праз суд. Бандыты і злодзеі будуць сядзець у турме, а не займаць дзяржаўныя пасады.
- Уводзіцца закон аб люстрацыях (забарона на прафэсію). Асобы, якія былі кіраўнікамі КПСС-КПБ на 19 жніўня 1991 г., ня будуць займаць дзяржаўныя пасады.
- Разьдзяляюцца функцыі дзяржаўнай улады, уласнасьці і кіраваньня эканомікай шляхам раздзяржаўленьня прадпрыемстваў.
- Прымаецца новы антыкарупцыйны закон аб дзяржаўнай службе.
- Уводзіцца нацыянальная валюта. Упарадкуецца фінансава-крэдытная і банкаўская сістэма. Спыняецца інфляцыя і рост цэн.
- Прымаецца новы закон аб зямлі. Парадкуецца заканадаўства аб уласнасьці і прыватызацыі.
- Рэзка зьніжаюцца падаткі для вытворцаў.
- За адабраную бальшавікамі зямлю і маёмасьць даецца кампенсацыя.
- Ліквідуецца бальшавіцкая сістэма Саветаў. Уводзіцца муніцыпальная сістэма мясцовай улады.
- Прымаецца сістэма гарантаванай сацыяльнай абароны насельніцтва. Дзяржава павінна будзе падзяліцца з пэнсіянэрамі, перадаўшы частку сваёй маёмасьці на карысьць пэнсійнага фонду.
- Праводзіцца кампэнсацыя грашовых укладаў насельніцтва.
- Будзе зроблена ўсё, каб прадухіліць фізычнае зьвырадненьне нацыі. Прэстыж, уладкаваньне і дабрабыт сям'і становяцца найважнейшым дзяржаўным клопатам.
- Прымаецца закон аб выкарыстаньні іншаземнай рабочай сілы. Грамадзяне Беларусі набываюць прыярытэтнае права займаць вакантныя рабочыя месцы.
- Беларусь выходзіць с СНД.
- Зь Беларусі выводзяцца ўсе чужаземныя войскі.
- Усе рашэньні, прынятыя Вярхоўным Саветам пасьля 29 кастрычніка 1992 г. (калі быў незаконна забаронены рэфэрэндум) і скіраваныя супраць дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў Беларусі, прызнаюцца несапраўднымі.
- Украдзеная і незаконна перададзеная іншым дзяржавам ці іх суб'ектам дзяржаўная маёмасьць Беларусі нацыяналізуецца і вяртаецца.
- Забараняюцца ўсе арганізацыі, якія выступаюць супраць незалежнай беларускай дзяржавы і яе Канстытуцыі.
- Умацоўваецца нэйтралітэт Беларусі, робяцца захады для стварэньня Балтыйска-Чарнаморскай эканамічнай асацыяцыі дзяржаў, а ў пэрспэктыве—усіх дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы.

**Ў абмеркаванні праекта праграмы, які распрацаваў кандыдат філасофскіх навук У. Падгол, прапануем узяць удзел усім віцяблянам**

Праект

# ПРАГРАМА
## ДЗЕЙНАСЦІ КЛУБА ВЫБАРШЧЫКАЎ «ЗА ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ВЫБАРЫ»

### АЦЭНКА САВЕЦКАЙ УЛАДЫ.

Да 1917 года камуністы падышлі, згуртаваўшыся ў злачынную тэрарыстычную арганізацыю, маючы на мэце разваліць Расею. Камуністычныя баевікі да таго часу прайшлі добрую практычную падрыхтоўку. Яны здзейснілі звыш 1100 актаў тэрарызму. Атрымалі мільён залатых рублёў у банку Макса Варбурга (Германія), 40 480 997 марак 25 пфенінгаў золатам ад Урада Германіі, 20 млн. долараў у германскага банкіра Я. Шыфа, 21 млн. залатых рублёў у Лорда Мільнера. Усе гэтыя грошы Ленін атрымліваў дзеля садзейнічання паразе Расеі шляхам рэвалюцыі ў вайне з Германіяй, аб чым захаваліся адпаведныя распіскі. Да ўлады бальшавікі дарваліся на нямецкім золаце, зброі, хлусне. Паабяцаўшы народу «зямлю, фабрыкі, уладу», камуністычныя бандыты ўсё гэта прыхапілі сабе. А люмпенам з некрафільным і садыстычным характарам яны аддалі ўладу над жыццямі народаў Расеі.

Распачалося вынішчэнне людзей, якое цягнецца ўсе 76 год існавання злачыннай савецкай улады.

Жудасным гістарычным вынікам генацыду камуністычнай савецкай улады з'яўляецца перабольшванне смяротнасці над нараджальнасцю. Калі не адхіліць ад улады камуністычных вырадкаў, не пакараць іх судом накшталт Нюрнбергскага, усіх нас чакае смерць. І тады Беларусь ператворыцца ў сусветны сметнік хімічных і радыяцыйных адыходаў. Сутнасцю злачыннага камуністычна-савецкага механізму з'яўляецца прыналежнасць улады нелюдзям, якія падпарадкоўваюць сабе ўсё на Беларусі і ў Віцебску. Савецкія камуністы маюць уладу над сілавымі структурамі, законамі, дэпутатамі, сродкамі масавай інфармацыі, і, нават, мараллю. Самі яны нікому не падпарадкоўваюцца, ні перад кім не адказваюць, выкарыстоўваючы народ як гліну для лепкі сваіх шызоідна-параноідальных хімер. Інфармацыя аб Чарнобыльскім варыянце савецка-камуністычнага генацыду была першым ударам па камуністычнай сістэме і міфах, якія яна стварала ў мільёнаў сваіх рабоў.

### УЗНІКНЕННЕ КЛУБА

Клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» ўзнік у 1989—1990 гг. пад час першых альтэрнатыўных выбараў. Выбары былі задуманы партыяй улады, каб захаваць сваю ўладу, перасеўшы з 6-га артыкула Канстытуцыі ў Саветы. Вылучэнне кандыдатаў, іх рэгістрацыя на акружных сходах камуністычных сакратароў мелі на мэце ачмурыць народ дэкаратыўным дэмакратычна-альтэрнатыўным наркозам, стварыўшы бачнасць барацьбы.

Але не ўсіх удалося ўсыпіць. Такія віцябляне кінулі выклік камуністычнай савецкай уладзе, аб'яднаўшыся ў клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». Усіх антытаталітарыстаў злучыла адна мэта: «Даць бой камуністычнаму монстру». Вылучыць кандыдата з дэмакратычнымі поглядамі, з вылучаных партнаменклатурай выбраць больш дэмакратычных і дапамагчы ім у перадвыбарнай барацьбе. Незапланаванае ўзнікненне клуба выклікала шок і нянавісць у кіраўнікоў уладаў. Ужо тады партыя ўлады разгледзела ў клубе антысавецкую, антыкамуністычную арганізацыю, свайго ворага і будучага магільшчыка. Клуб у тыя часы даваў магчымасць віцяблянам свабодна выказваць свае думкі, за якія можна было трапіць за краты ці ў псіхушку. Клуб стварыў умовы для свабодных дыскусіяў, спрэчак, у якіх нараджалася ісціна. Ісціннае бачанне ўлады, кандыдатаў, метадаў барацьбы за антытаталітарных кандыдатаў і метады барацьбы СУПРАЦЬ адыёзных асоб.

Першыя дэмакраты Віцебска стварылі КЛУБ—асобую краіну «Дэмакратычны Віцебск». Мяжа гэтай краіны праходзіла па душы кожнага. Той, хто мог перамагчы страх перад злачынным камуністычным монстрам і прыйшоў на клуб, станавіўся кандыдатам у грамадзяне. Той, хто выказваўся супраць монстра, пераходзіў яшчэ адну душэўную мяжу, мог грамадзянінам звацца, той, хто пайшоў на выбары супраць саўковых камуністаў ці кандыдатам у дэпутаты, ці ў групе падтрымкі, станавіўся сапраўдным грамадзянінам Дэмакратычнага Віцебска.

Мы стваралі Дэм. Клуб, Клуб ствараў нас, ствараў грамадзян. Для адных Клуб стаў сябрам, для іншых—палітычнай школай, для трэціх—штабам «бархатной» рэвалюцыі.

Але тыя выбары хаця і прынеслі клубу некалькі лакальных перамог, не прывялі да агульнай перамогі. «Бархатной» рэвалюцыі не адбылося. Улада над законам, над нашымі лёсамі засталася ў злачынцаў—партыі ўлады.

### ЗЛАЧЫННАЯ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА НЯСЕ СМЕРЦЬ І РАЗБУРЭННЕ.

Сённяшні этап панавання савецкіх камуністаў адметны сваім цынізмам. Злачынным цынізмам. Мэтанакіравана затармазіўшы канверсію, «саўкі» ад улады разбурылі эканоміку, раскруцілі інфляцыю, стварылі беспрацоўе.

Інфляцыя пажырае заробкі, пенсіі, стыпендыі, затое савецкія камуністы набіраюць ільготных крэдытаў, каб «узняцца» і аддаваць капейкі. Але простаму віцябляніну атрымаць крэдыт немагчыма.

Простаму чалавеку немагчыма атрымаць дзяржаўную кватэру, затое прадстаўнікі савецкай улады і дэпутаты, выканкамаўцы атрымліваюць кватэры без чаргі. Маючы шыкоўныя кватэры, яны да таго ж будуюць раскошныя палацы. У той жа час у Віцебску людзі жывуць у вагонах, а некаторыя маладыя маці і маленькія дзеці паміраюць з-за жудасных нечалавечых умоў існавання.

Штучна стварыўшы беспрацоўе, «саўкі» з улады заснавалі шэраг камерцыйных структураў, што ім зараз прыпыненне вытворчасці!

Савецкія камуністы распрадаюць за бясцэнак нашу маёмасць, маёмасць усіх віцяблян і, атрымаўшы ваўчары, мы зможам прыватызаваць грамадскія прыбіральні.

Хворым і старым няма чым лячыцца, падтрымаць жыццё, а савецкія кіраўнікі за валюту ездзяць па ўсяму свету!

Партыя ўлады трымае сродкі масавай інфармацыі ў сваіх руках і вядзе мэтанакіраванае замбіраванне свядомасці віцяблян. У галовы простых людзей убіваецца падман пра клапатлівую савецкую ўладу, якая толькі і можа дапамагчы віцяблянам. Бесперапынна мясцовыя «саўкі» хлусяць, што развал утварылі дэмакраты, хаця ўвесь хаос і развал, крызіс—вынік дзейнасці камуністычнай савецкай улады. Тым не менш камуністы, парушаючы закон, ужо раскідваюць па Віцебску ўлёткі, зазываючы галасаваць за іх на выбарах. Зноў, як у былыя часы, з кішэні працоўных камуністы аплачваюць свае д'ябальскія шабашы.

Сучасны момант адметны тым, што ў поўным разгары перадвыбарная барацьба. У гэтай барацьбе, якая разгарнулася ў СМІ і галовах людзей, з вялікім адрывам вядзе ПАРТЫЯ ЎЛАДЫ. Гэта абумоўлена перш наперш супрацоўніцтвам дэмакратаў з Саветамі. Пасля забароны ВС Рэспублікі Беларусь рэферэндуму і заявы апазіцыі аб нелегітымнасці парламента і фактам працы ў гэтым парламенце дэмакратычная апазіцыя стварыла ўмовы для замбіравання свядомасці выбаршчыкаў ідэяй «Дэмакраты ва ўладзе», «ВС працуе пад дыктоўку апазіцыі», «Развал утварылі дэмакраты».

Партыя ўлады таксама лідзіруе ў барацьбе за захаванне злачынных структур «советской власти». Яны вылучылі лозунгі «Демократия и Советы», «Рэфармуем Саветы». Шэраг дэмакратаў і дэм. партыяў прынялі гэты лозунг, пайшлі на супрацоўніцтва ў Саветы пад гэтым лозунгам. Выбаршчыкам усё гэта было пададзена як «Саветы -- гэта і ёсць дэмакратыя». «У Саветах дэмакраты», «Саветы можна рэфармаваць-дэмакратызаваць».

Пад час выбараў такі стан прывядзе да разгрому апазіцыі і дэмакратаў.

Бо людзі будуць думаць так: «Калі выбары ў Саветы, то лепей галасаваць за старых, ну, тых, хто ўжо нахапаўся і ведае, дзе дастаць трубы ды хлеб». Вось і ўсе выбары.

Дзеля перамогі на выбарах апазіцыя павінна дыстанцыравацца ад савецкай улады і сваімі дзеяннямі разбурыць у свядомасці выбаршчыкаў стэрэатыпы «Дэмакраты ва ўладзе», «Дэмакраты ўсё разбурылі», «Саветы—гэта і ёсць дэмакратыя».

Метадамі дзейнасці павінны стаць:

1. Вылучэнне лозунга «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй», «Советская власть несет коррупцию, разрушение, смерть», «Знішчым злачынную «советскую власть!».

Замбіраванне, гэтай ідэяй свядомасці выбаршчыкаў будзе мець наступныя вынікі:

1. У вялікага кола выбаршчыкаў будзе выззваны шокавы стан свядомасці, што прывядзе да выцірання са свядомасці шэрагу стэрэатыпаў, падрыхтуе свядомасць да ўспрыняцця новых ідэяў і выкліча шмат пытанняў.

2. У свядомасці выбаршчыкаў «советская власть» і апазіцыя, дэмакратыя будуць разведзены, бо калі дэмакрат мае мэту знішчыць «советскую власть», то ён не ва ўладзе, бо хто захоча знішчаць сам сябе?

3. Адказныя дзеянні партыі ўлады, імкненне даказаць, што ўлада «советская»—добрая, дазваляе ў адказ даказваць злачынны характар «советской власти».

4. Пад час гэтай барацьбы ў апазіцыі будзе сфарміравана альтэрнатыўная структура ўлады, якая пройдзе выпрабаванне выбаршчыкамі.

### МЭТЫ І СРОДКІ ДЗЕЙНАСЦІ

Каб спыніць разбуральную дзейнасць савецкай улады, рэанімацыю камуністычных злачынных структур, клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» ставіць перад сабой наступныя мэты:

1. Знішчэнне злачыннай савецкай улады і ўсталяванне цывілізаваных уладных структур на прынцыпах падзялення ўлад, прафесіяналізму, падкантрольнасці народу.

2. Пад час суіснавання з савецкай уладай усталяваць сістэму кантролю віцяблян над віцебскім Саветам.

3. Распачаць актыўную доўгатэрміновую перадвыбарную барацьбу.

4. Падтрымліваць сувязі паміж уладамі-дэпутатамі-партыямі-выбаршчыкамі.

5. Пераарыентаваць газету «Выбар» на дасягненне стаячых перад клубам мэтаў.

6. Развіццё нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці беларусаў і віцяблян іншых нацыянальнасцяў.

I

Змены ўлады неабходна дабівацца толькі мірнымі сродкамі. Сродкамі дасягнення мэты змены ўлад павінны стаць:

1. Адукацыйная і самаадукацыйная дзейнасць клуба ў галіне палітычных навук, у прыватнасці, у галіне сістэм уладаў.

2. Дэміфалагізацыя свядомасці віцяблян у адносінах да савецкай улады.

3. Навукова-даследчая праца па распрацоўцы эфектыўнай мадэлі мясцовага самакіравання ў дачыненні да Віцебска.

4. Заканатворчая і законаініцыіруючая дзейнасць Клуба.

II

Для ўсталявання сістэмы кантролю віцяблян над існуючай уладай неабходны наступныя сродкі:

1. Наладзіць сістэму атрымання інфармацыі аб дзейнасці ўладных структур, у прыватнасці, выканкамаў Саветаў.

2. Інфармаваць насельніцтва аб дзейнасці ўладных структураў.

3. Інфармаваць праваахоўныя органы аб адхіленні ўладаў ад дзеючага заканадаўства.

4. Дзейнасць грамадскай камісіі па барацьбе з карупцыяй і парушэннямі законаў.

5. Ацэначная дзейнасць рашэнняў улады.

6. Распрацоўка прапаноў.

7. Арганізацыя і правядзенне рэферэндумаў.

III

Стварэнне сістэмы датэрміновай перадвыбарнай барацьбы патрабуе наступных сродкаў:

1. Навуковая распрацоўка тэхналогіяў перадвыбарнай барацьбы.

2. Адукацыя ў галіне перадвыбарнай дзейнасці.

3. Дэміфалагізацыя свядомасці віцяблян у накірунку антыкамунізму, антысаветызму.

4. Контрпрапаганда супраць партыяў таталітарнага рэжыму.

5. Дзейнасць па абуджэнню віцяблян ад палітычнай спячкі, апатыі.

6. Ініцыіраванне ў працоўных калектывах пошукаў КАНДЫДАТАЎ у ДЭПУТАТЫ.

7. Выяўленне кандыдатаў у дэпутаты з дэмакратычным светапоглядам.

8. Стварэнне групы падтрымкі кандыдатаў.

9. Забеспячэнне вылучэння.

10. Арганізацыя сустрэч з кандыдатамі ў дэпутаты.

11. Арганізацыя кантролю на выбарах.

IV

Усталяванне сувязяў паміж выканаўчай уладай, дэпутатамі, выбаршчыкамі і партыямі дасягаецца:

1. Арганізацыяй сустрэч у Клубе з прадстаўнікамі выканаўчай улады—дэпутатамі.

2. Справаздачай прадстаўнікоў улады.

3. Прадстаўленнем партыяў выбаршчыкам.

V

«Выбар»:

1. Сістэматычнае інфармаванне чытачоў аб дзейнасці Клуба. Справаздачы аб пасяджэннях: а) інфармацыя—аналіз; б) інфармаванне аб маючых адбыцца пасяджэннях.

2. Інфармаванне ўсіх сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) аб дзейнасці Клуба: а) адукацыя—самаадукацыя; б) практычная дзейнасць па адраджэнню культуры.



Рамонкі з мінулага лета. Малюнак А. Мемуса (1986 г.)



**Наступны нумар "Выбара" выйдзе 17 сакавіка.**


ЗАСНАВАЛЬНІК: Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары"

**Галоўны рэдактар Барыс Хамайда**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.

ТЭЛЕФОНЫ:
37-28-44 — рэдактар;
37-35-06 — бухгалтэрыя,

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, лічбаў, прозвішчаў, цытат і іншых звестак, выкарыстаных у публікацыі

Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара

Пры перадруку спасылка на "Выбар" абавязковая

Рукапісы не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца

Газета набрана ў камп'ютэрным цэнтры абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна (г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6)

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па чацвяргах**

Друк—афсетны
Аб'ём—друк. арк.
Фармат А3
Тыраж—61 600 экз.
**Кошт 50 рублёў**
Падпісана да друку 2.03.94 г. у 16.00